№ 1(123)

3 студзеня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Кошт у кіёсках і крамах — 1500 руб.
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



# Мір вашаму дому!



Дзень добры, сябры!

Мір вашаму дому, шаноўныя прыхільнікі "Народнай волі"!

У новым, 1997, годзе мы з вамі сустракаемся ўпершыню. І не наша віна ў тым, што ні ўчора, ні пазаўчора вы не атрымалі "Народную волю". Пустымі былі паштовыя скрынкі і ў чытачоў іншых выданняў. 1 студзеня — агульнасвяточны дзень, а 2-га мы не выйшлі таму, што напярэдадні ноччу не працавалі паліграфісты і тыя, хто экспедзіруе і дастаўляе тыражы падпісчыкам і ў гандлёвыя кропкі.

І ўсё ж мы — з Вамі! І дай Бог, каб 1997 год надаў нашаму шчыраму сяброўству яшчэ большую моц, каб мы, журналісты, спаўна апраўдалі ваш давер. Рэдакцыйны калектыў, як кажуць, памрэ, але не адступіцца ад сваёй задумкі: "Народная воля" павінна стаць першай на Беларусі рэспубліканскай штодзённай **незалежнай** газетай. Не, нашыя памкненні ні ў якім выпадку не звязаны з амбіцыёзнасцю. Мець такую газету (і добра было б не адну) — дыктуе час! Чаму, скажыце, у суседняй Польшчы, больш далёкай Германіі, заакіянскіх Злучаных Штатах Амерыкі друк даўно вызваліўся з-пад абцасу дзяржавы, рознакалерных чыноўнікаў, а наша родная Беларусь стогне ад уціску замяталіных?

Адзін мой былы паплечнік па стварэнню "Народнай газеты", якую я рэдагаваў чатыры з паловай гады, чалавек, якога я лічыў самым заядлым дэмакратам, але які сёння самаахвярна служыць тым, хто на ўсе лады ўхваляе лад з "моцнай рукой", напярэдадні Новага года спрабаваў пераканаць некалькі соцень тысяч чытачоў: на Беларусі — поўная свабода слова. Крыўдна, калі чорнае выдаюць за белае, крыўдна двойчы, калі гэта робіць той, хто яшчэ ўчора крочыў з табою побач. За чорныя лімузіны, высокія аклады, прэстыжныя вандроўкі можна плаціць многім, але толькі не хлуснёй.

Пра якую свабоду слова ты, мой былы паплечнік, гаворыш?! Чаму газета, у якой ты працуеш, друкуецца ў Мінску, на праспекце Скарыны, а "Народная воля" ўжо ў другі раз вымушана знаходзіцца ў эміграцыі і друкавацца за мяжой, у Літве? Я і ўсе супрацоўнікі нашай рэдакцыі любім Беларусь, бадай, не менш, чым ты, шаноўны калега, і нам у тысячу разоў было б прыемней друкавацца тут, на роднай зямлі, у сценах выдавецтва "Беларускі Дом друку". Амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан ганарыцца стварэннем у сваёй краіне кожнага рабочага месца, а мы, журналісты "Народнай волі", па прымусу нашага прэзідэнта ствараем рабочыя месцы літоўскім друкарам. І гэта ў той час калі свае друкары, ты добра ведаеш, шукаюць работы, а вытворчыя магутнасці выкарыстоўваюцца далёка не на поўную магчымасць.

Манаполія ўлады (любой) на друкарні — гэта не проста антызаконнасць, гэта — інквізіцыя слова, інквізіцыя духа народа, пагарджанне правамі людзей. Гэта, калі хочаце, ускосная форма цэнзуры. Скажы, шаноўны сябра, чым правініліся перад уладай падпісчыкі і ўсе чытачы "Народнай волі", што яны праз сваю любімую газету не маюць доступу да адзінай у Мінску газетнай спецыялізаванай друкарні? Той друкарні, якая будавалася і развівалася і за іх грошы?

Не, нельга гандляваць свабодай слова. На жаль, тыя, хто сёння пры ўладзе, і тыя, хто іх па-халуйску абслугоўвае, гэтага не разумеюць. У нашай краіне адносіны ўлады да газет, часопісаў будуюцца не на законах і Канстытуцыі, а, хутчэй, на ступені лаяльнасці да ўлады, да таго ці іншага капялюшнага чыноўніка. Мала таго што аднаму выданню дазваляюць друкавацца ў Мінску, а другому — не, дык яшчэ ўведзены розныя тарыфы на паліграфічныя паслугі для дзяржаўных і недзяржаўных газет, часопісаў.

Я тады скажу, што ў Беларусі існуе свабода слова, калі "Народная воля", "Советская Белоруссия", "Белорусская нива", "Знамя юности" будуць друкавацца ў адной друкарні, па адных тарыфах, будуць знаходзіцца ў аднолькавых іншых умовах. І, канешне ж, чытачы ўсіх газет, нягледзячы на іх палітычную скіраванасць, павінны мець права купляць лекі ў адной і той жа дзяржаўнай аптэцы па адной і той жа цане. Не паддаецца ніякаму розуму, калі людзей дзеляць нават на смяротнай пасцелі.

І яшчэ: слухаю ранішні агляд газет. Якія толькі не называюцца, але ні слова пра тое, што выйшаў чарговы нумар "Народнай волі" альбо "Свободных новостей". Можа, грошы, якія выдзяляюцца на ўтрыманне Белдзяржтэлерадыёкампаніі, збіраюцца з падаткаў толькі тых, хто чытае падуладную прэсу? Вядома ж, у агульнай скарбонцы ёсць і грошы чытачоў недзяржаўных выданняў. Дык чаму ж такая дыскрымінацыя?

Мой дружа, не спяшайся з контраргументамі, якія любяць прыводзіць замяталінцы: маўляў, улада мае права на абарону свайго гонару, якому непадкантрольныя сродкі масавай інфармацыі наносяць значны ўрон. Гонар, як і ўсё астатняе, трэба абараняць у межах законаў, а не растоптваючы іх і не блытаючы божы дар з яешняй. А наконт таго, хто больш ўрон наносіць аўтарытэту ўлады, іміджу дзяржавы — тут яшчэ можна паспрачацца.

Шмат чаго іншага я мог бы сказаць сваім сённяшнім апанентам, але, мне здаецца, яшчэ больш скажа ім сам час. Мы, журналісты і ўсе супрацоўнікі "Народнай волі", будзем і ў 1997 годзе добрасумленна рабіць тое, што мы рабілі і ў 1995-м, і ў 1996-м: як мага аб'ектыўней даносіць інфармацыю да шырокай грамадскасці, спрыяць усталяванню на Беларусі дэмакратыі, нацыянальнаму адраджэнню, умацаванню не бутафорскага, а сапраўднага суверэнітэту.

Надзея і апора "Народнай волі" — гэта вы, паважаныя чытачы! Шчыра скажу: мяне і маіх сяброў па пяру радуе тое, што вас становіцца ўсё болей і болей. Вы не толькі не кінулі нас у самы цяжкі час, а, наадварот, дапамаглі нам выстаяць, выжыць і ўпэўнена пайсці далей. Вашыя шматлікія судовыя іскі падчас беспадстаўнага скасавання дагавора на распаўсюджванне газеты праз сістэму "Белпошты" паказалі, што на Беларусі нямала людзей, якія не хочуць жыць, стоячы на каленях.

Вядома, пакуль "Народная воля" будзе друкавацца ў Літве — мы будзем губляць у аператыўнасці. А таму, паўтараю, наша мэта — вяртанне на Радзіму. Сённяшнія ж страты будзем кампенсаваць больш глыбокімі, больш вострымі, больш змястоўнымі аналітычнымі публікацыямі. Ведайце: на старонках "Народнай волі" вы прачытаеце тое, што не надрукуе ніводная дзяржаўная газета. Многае адрознівае нас і ад шэрагу незалежных выданняў. "Народная воля" і далей будзе свежым ветрам над акіянам няпраўды.

Няма магчымасці дэтальна расказаць вам, шаноўныя чытачы, пра нашыя планы. Скажу толькі: шмат цікавых і арыгінальных задумак у рэдакцыі. Вядома ж, без вашай дапамогі нам іх не рэалізаваць. Таму мы з вялікай радасцю чытаем кожны ваш ліст, кожнае ваша пісьмо. Менавіта з вашых лістоў і будуць фарміравацца цэлыя газетныя старонкі.

"Народная воля" — гэта сапраўды народная газета!

Яшчэ раз дзякуй вам, шаноўныя сябры!

З Новым годам!

Мір вашаму дому!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік і галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

Стоп-кадр



*На навагоднім карнавале.*

Стала вядома

## Чарговы сход дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання

**Напярэдадні Новага года адбыўся сход дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія засталіся вернымі Канстытуцыі 1994 года.**

З інфармацыяй аб рабоце прэзідыума Вярхоўнага Савета выступіў Сямён Шарэцкі. Дэпутаты абмеркавалі пытанні фарміравання секцый, міжнародных кантактаў і далейшай дэпутацкай дзейнасці ў сённяшніх няпростых умовах. У канцы студзеня мяркуецца правесці чарговы сход дэпутатаў 13-га склікання.

**Антон РАКІЦКІ.**

## Шарэцкі павіншаваў Барыса Ельцына

Сямён Шарэцкі як старшыня парламенцкага сходу Супольнасці Беларусі і Расіі павіншаваў прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына з вяртаннем у рабочы кабінет у Крамлі і з Новым годам. Ён таксама павіншаваў з Новым годам паслоў, акрэдытаваных у Мінску. І ад некаторых, па яго словах, ужо ў адказ атрымаў віншаванні і добрыя пажаданні ў далейшай дзейнасці.

**Кастусь ВАСІЛЕВІЧ.**

*Семен Букчин*

# СТРАННОЕ НОВОГОДЬЕ

Трудно справиться с тем странным, сложным состоянием, которое, полагаю, одолевает не только меня в эти дни.

Как мы встречали Новый год в советские, досуверенные времена? Это был, пожалуй, единственный неидеологизированный праздник. "Красный день календаря", 1 мая или 7 ноября, — это уж как полагалось: с флагами и демонстрациями... Новый же год — здесь всегда первенствовал момент чисто человеческий. Может быть, потому, что отмечали мы его действительно со всем человечеством.

А что такое были несколько Новогодий, начиная с конца того декабря 1991 г., когда перестал существовать Советский Союз и чей пятилетний юбилей мы недавно отметили? Это были годы растерянности, тяжелых сомнений, но и надежды.

И вот, пожалуй, первый "суверенный" Новый год, когда традиционная надежда выглядит более чем призрачной.

Ну зачем так мрачно? Надежда, знаете, она всегда есть... Нужно верить! Уныние — тяжкий грех.

Я и сам могу подарить любому еще с десяток подобных "бодрых" истин. Но вот встречаю знакомого отставного подполковника. "Знаешь, — говорит он мне, — вот вы там, в газетах, жуете эту проблему — присоединит Лукашенко Беларусь к России или не присоединит... А я тебе так скажу. Я недавно письмо от кореша получил из Рязани. Мы вместе в одной части служили. Так вот у него пенсия — естественно, в российских рублях — в три с лишним раза больше моей. Вот тебе мое мнение по этой проблеме".

Можно, конечно, заклеймить этого отставника: мол, не желает он помнить о Великом княжестве Литовском, о славной битве под Оршей, не думает о судьбе белорусской нации и государства... Типичный "колбасник" без идеалов. А что если таких "колбасников" большинство?

И на этот вопрос ответ известен. Меньшинство не должно сдаваться, оно просто обязано переубедить большинство. Только вот какими средствами?

Впрочем, перед нами замечательный пример — уже больше месяца идущие массовые демонстрации протеста в Белграде. Победит ли оппозиция во главе с Вуком Драшковичем? Уступит ли президент Милошевич, победу сторонников которого на выборах в местные органы власти оспаривают протестующие? Пока милиция не без успеха сдерживает напор противников югославского президента. Думаю, что хронику из Белграда с особым интересом смотрит г-н Лукашенко. Еще бы! Ежели ежедневно "гуляющая" десятками тысяч по центру столицы сербская оппозиция победит — это какой же "нехороший" пример будет для "врагов" главного белорусского начальника! А вот ежели Милошевич устоит — значит, права старая пословица о том, что сила солому ломит. Думаю, что в глубине души Лукашенко возносит молитвы за Милошевича. И как истинный славянин готов послать собрату телеграмму поддержки. А может, и пошлет. Уже поздравление с победой.

Какой-то части сербов не нравится Милошевич, какой-то части белорусов — Лукашенко. Разница лишь в том, что государственная самостоятельность Союзной Республики Югославии, ее конституция сегодня не являются предметом общественного противостояния в Белграде, в то время как в Беларуси...

А что в Беларуси? Кто, собственно, создал проблему? Лукашенко говорит об углублении интеграции. Нормальный процесс. Западная Европа, всем известно, вовсю интегрируется. Проблему присоединения Беларуси к России, поглощения, инкорпорации, "аншлюса" создала антилукашенковская оппозиция вместе с независимыми газетами. В этой среде больше всего и смакуется и обсуждается этот вопрос.

Между прочим, есть здесь одна вполне очевидная опасность. Пока Лукашенко ничего не говорит в открытую, обсуждаемая проблема "аншлюса" становится привычной, она поселяется в общественных мозгах, с ней сживаются, свыкаются и вскоре наступающий "итог" представляется уже вполне закономерным.

Так что же — не говорить, не обсуждать, замалчивать? Нет, конечно же... О другом речь. О том, что обсуждаемое в независимых газетах и оппозиционных кругах на бытовом уровне давно уже живет в общественном сознании.

И в самом деле, может хватит нас запугивать российской нестабильностью, тамошним шовинизмом и фашизмом? Живут же в России и татары, и башкиры, и якуты... И государственность свою какую-никакую имеют...

И вообще, Россия нынешняя хотя и вправду нестабильная, а сильна еще матушка, вся Европа зависит от ее газа... Может, и в самом деле, лучше будет под высокой рукой московского царя, надежнее, теплее, увереннее? Суверенность-независимость эту самую в суп не положишь вместо куска мяса... Да и начальство в России поумнее нашего, может, что-нибудь и придумает хорошее для людей. Опять же рубль российский уже крепче нашего в три с лишним раза. Иначе бы не тащили на продажу в Россию белорусскую сметану и творог. На заработки туда же не подавались бы...

Неприятные, стыдные мысли... А ведь бродят они во многих, даже весьма и весьма независимых головах. И ведь возразить нечего, кроме того же традиционного: как, мол, вам не стыдно торговать вековой мечтой белорусского народа о собственной государственности? Лучшие сыны и дочери Беларуси отдали свои жизни за ее независимость...

Но если это вековая мечта нашего народа, то когда же, черт побери, он проявит свою волю?

А вы разве не знаете? Он уже ее, волю, проявил. На двух референдумах. В мае прошлого года. И в нынешнем ноябре. Так "об чем речь, господа"?

А речь все о том же. Есть немало людей, которым не нравится "это проявление" народной воли. И они жаждут другого. И у них есть на это полное право.

Сегодня проблема в одном. Как в самом ближайшем будущем поведет себя не только оппозиция (полагаю, что партийно-амбициозные страсти еще долго будут съедать ее изнутри), но прежде всего та часть общества, для которой действительно демократическое, с динамичной экономикой белорусское государство не миф, не сказка, не увядшая мечта. Польша и Литва, Латвия и Эстония — разве не убеждают эти примеры?

Но что мы все о куске сала? Ведь есть еще великая и неразложимая на логические элементы мистика национального чувства, национального очага. Своего дома. И он должен быть построен, этот нормальный белорусский дом, в котором будет тепло и уютно всем — русским и полякам, украинцам и евреям. Но дом должен быть белорусский. И это необсуждаемо.

Почему австрийцы не захотели слиться с Германией? Столько всего общего, начиная с языка... На 13 марта 1938 года канцлер Шушниг назначил плебисцит о судьбе Австрии. Последняя попытка спасти независимость страны. Но в ночь на 12-е в страну вошли германские войска.

Наш "аншлюс" будет тихий. Бумажный, поскольку войска вводить не придется. Потому что *наши* войска — это *их* войска.

Веками евреи поднимали тост: "В будущем году в Иерусалиме!" Не знаю, сколько людей в Беларуси подняло новогоднюю рюмку с мыслью: "В будущем году в России!"

В России, конечно, хорошо. Она родная, близкая, своя. И все же, как поется в старинном русском романсе:

*Пошто, мой друг, пошто слеза катится?*

Эксклюзивное интервью

*Геннадий КАРПЕНКО:*

# "Я осчастливлен" таким завершением года"

**Нынешний год был богат на политические события, которые в основном проходили в рамках жесткого противостояния между Верховным Советом, командой президента и исполнительной властью. Политическая борьба порой приобретала крайне острые формы, и, казалось, вот-вот она выльется на улицу. Однако "гордиев узел" развязан. Каким образом и каковы могут быть последствия подобного решения — другой вопрос. По оценкам многих политиков, данный факт и является основным событием года.**

**Г. Карпенко, вице-спикер Верховного Совета согласился дать свой комментарий минувшему, а также попытался спрогнозировать, что ждет Беларусь в грядущем году.**

— Уходящий год для меня целиком связан с деятельностью Верховного Совета 13-го созыва. Вспоминая первые дни работы парламента, отрадно, что с самого начала депутаты показали образец быстрого решения внутрипарламентских вопросов, дабы впоследствии сконцентрироваться на главном — принятии экономических законов. К примеру, Верховный Совет прошлого созыва делил портфели около 2-х месяцев. Мы же "разобрались с кадрами" буквально за день. Хотя да, многие не удерживались от сарказма: не увязли в кадровой чехарде — ладно, но как сработает принцип фракционного согласования в дальнейшем? Развитие событий показало: как бы там ни было, через три месяца законодательный корпус и организационно, и профессионально был готов на высоком уровне к реформированию законодательной базы. Посему Верховный Совет не терпел дилетантские, авантюрные подходы — прежде всего в области экономики — президента, исполнительной власти. Уже под занавес первой сессии депутаты отторгали предлагаемые глупости.

Иначе и быть не могло, поскольку в парламентских стенах собрались действительно лучшие, кого мог избрать народ: грамотные, опытные хозяйственники. В который раз перелистывая список депутатов, просматриваю, откуда кто пришел в парламент. Этим парламентом представлена вся хозяйственная палитра Беларуси. Тот редкий случай, когда соглашаешься с президентом: лучших не выберут. Верховный Совет 13-го созыва мог дать сто очков вперед своим предшественникам на ниве законотворчества.

Руководство парламента, да и сами депутаты стремились к избежанию политических конфликтов, которые не позволили бы реализоваться высокому потенциалу законодателей. Преследуя цель поставить все взаимоотношения с исполнительной властью в плоскость делового сотрудничества, Верховный Совет направлял несколько писем президенту и Кабинету министров с просьбами подготовить перечень экономических законопроектов, определяющих магистральный курс. Кроме того, правительство получило наш собственный план подготовки и принятия экономических законопроектов. Ни ответа ни привета. Правда, Кабинет министров все же счел необходимым уведомить нас о своем согласии с представленным нами проектом, однако реального сотрудничества между двумя ветвями власти так и не получилось. До известных пределов параллельная деятельность ветвей власти еще была возможна. Но с определенного этапа работа правительства и парламента теряла всякий смысл без совместного приложения усилий.

Когда ситуация подошла к такой отметке, для всех стало очевидным, что за душой у исполнительной власти ничего нет: ни программы экономического развития, ни реального бюджета, ни экономических законопроектов.

На этой почве возник неизбежный конфликт. Уже перед парламентскими каникулами он приобрел конкретные черты. Президент, осознав опасность положения, при котором Верховный Совет, не уповая на "коллег", готов был взять экономическую инициативу на себя, предложил обыкновенную политическую возню под названием "референдум". Вся страна вовлеклась в новое сражение со старыми врагами.

Недельки за три до исхода борьбы у меня возникла назойливая мысль — уйти от противостояния, пусть наш дорогой президент покажет, на что способен без "вражеского окружения". К счастью, так судьба и распорядилась, хотя трудно назвать роком грубейшие нарушения закона, обыкновенное жульничество, позволившие выбросить оппозицию из законодательного органа.

Тем не менее я "осчастливлен" таким завершением года, ибо сейчас у меня появилась возможность со многими познакомиться, многих узнать. В доселе незнакомых мне людях различимы фигуры с государственным мышлением. Уже сейчас видно, откуда брать кадры для будущей государственной деятельности, если в обозримом будущем такая возможность вообще представится. Не одному же Шклову или Могилевской области поставлять подобных президенту руководителей.

Политическая осень 1996-го раскрыла глаза на тех, кто работал рядом. Искренне рад тому, сколь много депутатов остались верны принципиальной позиции.

А "перебежчики"... Рано или поздно "переварятся". Реализуют оставленные Верховным Советом наработки. Что дальше?

Кого мне искренне жаль, так это нынешнего "спикера" Нижней палаты — Малофеева. Удивительно, но лишь в Беларуси возможно вытаскивать человека, извините, из нафталина. Зачем? Для чего? Единственный радостный для меня в этом плане момент — исключение Малофеева из компартии. Под занавес года весьма примечательный и многозначительный факт...

**Леонид НАУМЕНКОВ.**



***На снимке:** Г.Карпенко (второй слева) с оптимизмом смотрит в будущее.*

## Хто — з Даніі, а хто — з Масквы і Лондана

Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання працягваюць сваю міжнародную дзейнасць. Напрыканцы снежня дэпутаты Багданкевіч, Бухвостаў і Шлындзікаў вярнуліся з Даніі, дзе яны мелі гутаркі ў парламенце, з міністрам унутраных спраў гэтай краіны, вядучымі палітыкамі. Яны праінфармавалі іх аб сітуацыі ў Беларусі.

Пётр Краўчанка наведаў Дзяржаўную думу Расіі, меў у Маскве сустрэчы з Селязнёвым, Строевым, Прымаковым, Яўлінскім, іншымі ўплывовымі дзеячамі. У Лондане ён прысутнічаў на пасяджэнні Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. І ў Маскве, і ў Лондане Пётр Краўчанка расказваў субяседнікам аб сітуацыі ў Беларусі.

**Яўген АНТОНЕНКА.**

## Что можно ожидать от Огненного Буйвола?

Если в ушедшем году Свиньи все опасались, как бы он не преподнес нам чего-нибудь неожиданного, то от наступающего все ожидают спокойствия. Ибо, если верить восточному гороскопу, грядущий 1997 год будет годом Огненного Буйвола. А Буйвол чаще всего добродушен, спокоен и мирно щиплет травку. Правда, в ярости это царственное животное может сокрушить любую стену. Поэтому, советуют астрологи, не дразните его красной тряпкой, и весь год пройдет у вас в мире и согласии. Что до его огненной стихии, то она отнюдь не всегда направлена на разрушение. Огонь не только сжигает, но и греет. А восточные мудрецы уверяют, что, кроме того, огонь — это всегда очищение и обновление. Но каким быть новому году, пожалуй, зависит только от вас. Согласитесь, никакие вселенские факторы не в состоянии помешать вам в новом году пройти по жизни так, как вы того желаете.

Непричесанное письмо

# За время правления Лукашенко моя пенсия снизилась с 50 долларов до 30. А что будет дальше?

Уважаемая редакция. С большой радостью узнал, что "Народная воля" будет выходить ежедневно. Я ее выписываю с первого дня.

Я пенсионер. Пенсия у меня максимальная по возрасту, поэтому подписку оформляю на один квартал, так как теперь, благодаря нашим вождям, которые находятся у власти, размеры пенсий уравняли для всех категорий работающих. При стаже работы 43 года и коэффициенте 2,4 мой размер пенсии такой же как у уборщицы. За время правления Лукашенко моя пенсия в валютном исчислении снизилась с 50 долларов (начало 1995 года) до 30 долларов (конец 1996 года). За это время цены увеличились примерно в 2 раза. Масло сливочное — с 25 тыс. руб. до 47 тысяч; свинина — с 20 до 48 тысяч, говядина — с 26 до 50 тысяч; сахар — с 5 до 10 тысяч за 1 кг; яйца куриные — с 5 до 13 тысяч белорусских рублей за десяток и т.д. Пенсию мне за это время добавили аж 130 тысяч — было 470, а теперь 600 тысяч рублей.

После всего этого глава государства наделяется властью короля Людовика XIV и хочет руководить всем, чем только можно. Я как экономист по специальности знаю, что это тупиковый путь.

Для нормального развития страны необходимо дать людям полную экономическую свободу, полное временное освобождение от налогов при внедрении новых технологий, дающих резкое увеличение производительности труда и снижение себестоимости продукции; полное акционирование всех предприятий без владения государством контрольным пакетом акций. Дело государства — правильно и в пределах разумных размеров взимать налоги с предпринимателей и выполнять государственный бюджет. Остальное люди сделают сами — у нас умный и грамотный народ...

Если на каждом нашем предприятии будет хозяин, который лично заинтересован в его работе, будут и производительность, и качество, и конкурентоспособные цены. Мне всегда становится смешно, когда я слушаю наивные рассуждения некоторых наших комментаторов и политиков, которые рассуждают так — если дать свободно покупать и продавать землю, то скоро у нас все скупят и нам негде будет жить. Я не думаю, что у нас будут покупать землю для того, чтобы она зарастала бурьяном и кустарником. Уж если кто и купит землю, то организует на ней самое передовое и технологичное сельское или промышленное производство. Сейчас говорят, что японцы скупили половину Соединенных Штатов Америки и даже Голливуд, и что от этого американцы стали хуже жить? Я считаю, что наша пропаганда в СМИ идет в одни ворота и рассчитана на "дураков". Я, может быть, и поддерживал бы нынешнюю власть, если бы наш уважаемый президент хоть немного улучшил мое материальное положение за время его правления, а это уже 2,5 года. Но этого не произошло да и не может произойти, нас обратно тянут в социализм.

Не нужны нам эти "измы", даже и социально направленные. Создайте вы нормальное свободное общество, где каждый человек будет ощущать себя гражданином, а не винтиком в громоздкой и неповоротливой государственной машине, тогда все образуется и люди будут чтить и уважать своих руководителей.

С уважением —

**Р.М.БОГДАНОВИЧ,**
**пенсионер.**

Ліст з-за мяжы

# Пра што піша "Царкоўны пасланец"?

*Дзень добры, паважаны рэдактар!*

*У 62-м нумары "Народнай волі" прачыталі допіс К.Яначкіна пад назвай "Чаму праваслаўная царква не шануе родную мову?" На жаль, мала хто ў Беларусі ведае пра існаванне ў замежжы Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якая ставіцца да роднай мовы як да вышэйшай, Богам дадзенай духовай каштоўнасці.*

*Калі б рэдакцыя палічыла магчымым, былі б вельмі ўдзячныя за якую кольвеч інфармацыю пра наш сціплы часопіс на старонках паважанай газеты "Народная воля", што магло б быць своеасаблівым адказам на запытанне згаданага чытача.*

*Наш адрас у Беларусі: 220005, Мінск-5, ас 185. Таксама можна патэлефанаваць нашаму прадстаўніку: тэл. пр. 236-09-09 — Генадзь Вінярскі.*

*Ад імя рэдакцыі —*

**Віктар БРАЖЭВІЧ.**

Мы з цікавасцю пагарталі часопіс Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) "Царкоўны пасланец", які выдаецца ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе і знаходзіцца БАПЦ. Яго артыкулы, прасякнутыя клопатам аб Беларусі, аб вяртанні сюды сапраўднага божага слова, раскрываюць імперскі характар Расійскай царквы. У адным з матэрыялаў гаворыцца, што Расійская імперыя імкнецца любымі спосабамі знішчыць мовы і другія нацыянальныя асаблівасці суседніх славянскіх народаў. З гэтай мэтай яна выкарыстоўвае выпрабаваных служак маскоўскага самадзяржаўя — духоўнікаў Расійскай праваслаўнай царквы.

Гэту тэму глыбока раскрывае артыкул вядомага расійскага рэлігійнага і грамадскага дзеяча, святара Глеба Якуніна. У ім утрымліваецца шмат гістарычных фактаў з жыцця расійскай царквы, якія мала вядомыя нашаму чытачу. Так, у 1721 годзе імператар Расіі Пётр I скасаваў сабornасць царквы і ўтварыў падпарадкаваны сабе Правячы Сінод. Гэта была знявага над кананічнымі правіламі царквы. Усе архіярэі пісьмова пагадзіліся з падрыхтаваным указам імператара і далі яму прысягу на вернасць, як кіраўніку і апошняму суддзі Правячага Сінода. Усё гэта спарадзіла найглыбейшы духоўны крызіс у Расіі, піша Якунін.

Падпарадкавалі сабе царкву і бальшавікі. А ў 1943 годзе, чытаем у артыкуле, Сталін і Берыя з прадстаўнікоў завербаванага чэкістамі "часовага сінода" ўтварылі Маскоўскую патрыярхію. Парушыўшы ўсе кананічныя нормы, улада стварыла зусім новую, чужую праваслаўнай традыцыі рэлігійную арганізацыю таталітарнага тыпу, з новымі, раней не існуючымі царкоўнымі правіламі, з кіраўнічай структурай падобнай сталінскаму Палітбюро — "Мітрапалітбюро". Яе мэта — служэнне бязбожнай таталітарнай уладзе пад прыкрыццём рэлігійнай дзейнасці.

У адным з нумароў часопіса пададзена літургія ў Брукліне з нагоды 10-ай гадавіны чарнобыльскай катастрофы, раскрываецца сутнасць 400-годдзя Берасцейскай царкоўнай вуніі, адзначаючца 205-я ўгодкі Пінскай кангрэгацыі, як слаўнай падзеі праваслаўнай царквы ў Беларусі, расказваецца пра сустрэчу з лідэрамі БНФ Пазьняком і Навумчыкам, ёсць шэраг іншых матэрыялаў, якія раскрываюць забытыя старонкі гісторыі нашай краіны і праваслаўнай царквы на Беларусі.

## Новый год Александр Пупейко встретил далеко от родины

Конец прошлого года сотрудники ЗАО "Пуше" трудились без своего генерального директора Александра Пупейко.

После того как в конце ноября г-н Пупейко попал в одну из клиник города Минска с инфарктом миокарда, к своим служебным обязанностям непосредственно в рабочем кабинете он не приступал. Выписавшись из больницы, сразу же уехал за границу восстанавливать силы.

Узнать подробную информацию о состоянии его здоровья оказалось не так просто. В приемной г-на Пупейко любезный голос секретарши поведал, что Александр Трофимович чувствует себя хорошо. Рождество, как и Новый год, встречать будет не дома. После праздников собирается вернуться в Беларусь и сразу же приступить к работе. Во всяком случае, уже сейчас он каждый день звонит в "Пуше" и по телефону руководит делами своей фирмы.

**Мария НАРЕЙКО.**

Ракурс

# Чаму ў дзіцячую інфекцыйную бальніцу дастаўляе малышоў участковы міліцыянер?

Дзіцячую інфекцыйную клінічную бальніцу, што ў Мінску па вуліцы Якубоўскага, я наведала некалькі тыдняў таму. І да гэтай пары не магла ўзяцца за пяро. Цяжка на душы ад таго, што ўбачыла. Не, умовы для хворых там нармальныя. Усюды чыста, светла, прасторна.

Намеснік галоўнага ўрача Ірына Рыгораўна Ушакевіч пазнаёміла з некаторымі аддзяленнямі. Добра, з улікам самых сучасных патрабаванняў, абсталявана аддзяленне інтэнсіўнай тэрапіі і рэанімацыі. Зусім, можна сказаць, унікальнае абсталяванне знаходзіцца ў аддзяленні гіпербарычнай аксігенацыі, або баратэрапіі. Баракамеры, што ўсталяваны тут, дазваляюць праводзіць эфектыўнае лячэнне дзетак з цяжкімі захворваннямі галаўнога мозгу, кішэчніка, пры вірусных гепатытах...

Цудоўны медперсанал працуе ў гэтай лячэбнай установе. Дзяржава трымае на паўгалодным пайку, а высокакваліфікаваныя дактары, медсёстры, санітаркі суткамі дзяжураць каля хворых, робячы ўсё магчымае і, як кажуць, немагчымае для выратавання дзяцей.

І усё ж чаму з нейкай цяжкасцю на сэрцы я пакідала дзіцячую інфекцыйную бальніцу?

Тая ж Ірына Рыгораўна паказала мне не толькі высокакласнае абсталяванне, але і дзетак, ад якіх адмовіліся бацькі... На вялікі жаль, у нашы дні гэта не такая ўжо рэдкая з'ява.

У жніўні ўчастковы міліцыянер прывёз сюды чатырох дзяцей — шасцігадовага Арцёма, Машу, Наташу і маленькага Алега, якому год з паловай. Участковаму ў сваю чаргу паведамілі суседзі аб тым, што дзеці ўжо каторы дзень зусім не дагледжаны, сноўдаюцца цеснаю кучкаю, шукаюць што і дзе можна паесці. Праз некалькі дзён у бальніцу прыйшлі бабулі дзетак. Запэўнілі супрацоўнікаў, што з малышамі ўсё будзе нармальна і забралі іх. Не прайшло і тыдня, як тая ж міліцэйская машына зноў прывезла няшчасных малых са строгім наказам нікому не аддаваць.

Не адзін месяц знаходзіліся дзеткі ў бальніцы. Як-ніяк, а накормлены, дагледжаны. Такіх страў дома яны, мабыць, не каштавалі. У цяпле і пад кантролем дактароў.

Перад тым як перадаць здымкі і ліст у рэдакцыю, я патэлефанавала ў бальніцу і пацікавілася лёсам дзяцей. Трое з іх — Арцём, Маша і Наташа — ужо ў дзіцячым доме. Малодшанькі Алег пакуль яшчэ ў бальніцы.

Ад роспачы хочацца заплакаць. Ну чаму, чаму, многія бацькі такія абыякавыя, такія жорсткія ў адносінах да сваіх дзяцей?

**Фота і тэкст**
**Марты КРУГЛІКАВАЙ.**

Демократия по-белорусски

# Сезон "охоты на ведьм" открыт и в провинции

После "судьбоносного" референдума, как и ожидалось, повсеместно начались разборки со всеми неугодными нынешним властям. Вот и Витебское областное управление по печати уволило с работы директора Поставской укрупненной типографии В.Шика в связи с окончанием срока контракта, хотя возглавляемое им предприятие работает стабильно и устойчиво. В отличие от многих других типография имеет загрузку, вовремя выплачивает зарплату работникам, исправно рассчитывается с налогами и платежами в бюджет. Тем не менее специалисту с 11-летним опытом работы с подачи местных властей было отказано в продолжении работы в коллективе даже в другой должности, что является грубейшим попранием человеческих и гражданских прав. Фактически его семью лишили всяких средств к существованию, поскольку ранее сократили с работы и жену.

"Виноват" теперь уже бывший директор разве в том, что, несмотря на давление властей, предоставлял 4 года производственные мощности типографии для печатания демократической независимой газеты "Сумежжа", создавал в районе и является до сих пор одним из руководителей местной организации белорусской социал-демократической партии. Сегодня в фаворе совсем другие руководители, не рассуждающие, а готовые лишь исполнять приказы и указания сверху. Именно такие, стоящие, кстати, во главе предприятий-банкротов, и представляли район на недавнем Всебелорусском народном собрании.

**Кастусь АЛЕКСАНДРОВИЧ.**

Фестывалі 97-га

# "Магутны Божа", "Белая вежа", "Лістапад"...

Год мінулы ў культурным жыцці краіны быў адзначаны вялікай колькасцю фестываляў. Адметна, што і ў новым годзе іх чакаецца не менш.

Ужо ў лютым пройдзе Міжнародны джазавы фестываль у Мінску, а вясною, як заўсёды, у беларускай сталіцы адбудзецца фестываль "Мінская вясна". У чэрвені чакаецца Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, у лістападзе — "Беларуская музычная восень", якія таксама пройдуць у Мінску.

Не абыдуць бокам музычныя святы і іншыя гарады Беларусі. Летам, як звычайна, у Віцебску адбудзецца "Славянскі базар". Чакаюць віцябляне і снежаньскія міжнародныя фестывалі — сучаснай музыкі і сучаснай харэаграфіі. У Магілёве плануецца правесці Міжнародны фестываль хрысціянскай духоўнай музыкі "Магутны Божа", які нарадзіўся тут некалькі гадоў назад.

Прыхільнікаў тэатральнага мастацтва збярэ ў кастрычніку Брэст. Тут пройдзе Міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа". Вясною адбудуцца "Маладзечанская сакавіца" ў Маладзечне і "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Гомелі.

Аматарам кіно таксама не прыйдзецца сумаваць. У красавіку ў Мінску пройдуць Дні расійскага кіно, а на май у сталіцы запланаваны Міжнародны кінафестываль жаночага кіно. Новыя працы прадставяць у лістападзе кінематаграфісты краін СНД у фестывалі "Лістапад". У гэтым годзе плануецца арганізаваць першы нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў, які хутчэй за ўсё адбудзецца ў верасні ў Брэсце.

**Вольга МЫСЛІЦКАЯ.**

## У "Нейро Дюбеля" – "Чужая милая"

**Не так давно в репертуаре популярной нынче среди молодежи группы "Нейро Дюбель" прозвучал новый шедевр. На сей раз это была песня популярного (как свидетельствуют многочисленные рейтинги) белорусского певца Александра Солодухи "Чужая милая".**

Композитор сего творения Эдуард Ханок, услышав свое детище в новой обработке, был приятно удивлен: "Мне понравилось. Крутая обработка — вроде бы старое, но в то же время и новое. Я искренне рад за ребят, они растут".

Солодуха же прореагировал более чем скромно: "Это показатель популярности, — отметил певец. — Супер-популярность песни, которая распространяется, наверное, в какой-то мере и на певца".

**Марина КОКТЫШ.**

# Ці будзе ездзіць транспарт?

**Маразы, што ўпершыню з пачатку зімы праявілі свой суровы нораў, значна абвастрылі і без таго незайздроснае становішча транспартнікаў.**

Як вядома, большасць аўтобусаў, што "бегаюць" па вуліцах нашых гарадоў, — гэта састарэлыя машыны, якія даўно пара спісваць. Зношаныя "Ікарусы" не заводзяцца, нярэдка скрануць іх з месца можна толькі з дапамогай цягачоў, не хапае спецыяльнага зімовага паліва, якое не губляе сваіх якасцей пры нізкіх тэмпературах паветра. Дарэчы, маразы прынеслі і яшчэ адну непрыемнасць — зразумела, што пры вялікай мінусавой тэмпературы ўзрастае і расход паліва. Між іншым, яго зараз ніколі не бывае ў дастатку, паліва ідзе літаральна з колаў. У такой сітуацыі пакутуюць не толькі пасажыры, якія не могуць своечасова дабрацца на працу, але і самі вадзіцелі.

Як паведамілі ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, робіцца ўсё магчымае, каб людзі не адчувалі нязручнасцей. У прыватнасці, у сталіцы праблемы з транспартам будуць кінуты ў бой 50 рэзервовых тралейбусаў і 10 трамваяў, у метрапалітэне будзе павялічана хуткасць цягнікоў і зменшаны інтэрвал паміж іх прыходамі-адыходамі на станцыі. Акрамя таго, плануецца, што ў выпадку неабходнасці аўтобусы будуць часткова здымацца з тых ліній, дзе пасажыры ад гэтага не пацерпяць, і перакідвацца ў тыя мікрараёны, дзе побач няма метро, таксама не ходзяць тралейбусы і трамваі.

**Марына АЛЯКСАНДРАВА.**

## Іспанскія гастролі беларускага аркестра

Іспанская фірма "Прадуксьонес Адэмарт" на чале з вядомым імпрэсарыю Раландам Саадам заключыла кантракт з Белдзяржфілармоніяй на правядзенне ў Іспаніі другіх за апошнія два гады гастроляў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, якія пройдуць у першыя два тыдні 1997 года.

Пад упраўленнем маладога дырыжора Віктара Собалева наш аркестр падрыхтаваў дзве цікавыя гастрольныя праграмы: першая складаецца з сімфанічных твораў Пятра Чайкоўскага, другая — з твораў Іагана Штрауса, аўтара папулярнай танцавальнай музыкі і венскіх аперэт.

**Даша РАСТОВА.**

Криминал

## Новогодний "сюрприз" белорусским травматологам

То, что наша наука нищая, знают, пожалуй, все. Однако этот факт не остановил воров, которые накануне новогодних праздников пробрались в библиотеку Белорусского научно-исследовательского института травматологии и ортопедии.

Естественно, что медицинская литература и авторефераты сотрудников, грабителей не заинтересовали. Они "положили глаз" на старенький советский компьютер, в котором находилась найценнейшая монография директора института, а также на две печатные машинки "Ятрань", калькуляторы и другие канцтовары. Всю эту скромную собственность института они прихватили с собой.

По факту ведется следствие, но пока милиция ничем ученых не порадовала.

**Мария ВИКТОРОВА.**

Незалежная экспертыза

# Калі ўбачым "святло ў канцы тунеля"?

**Наш субяседнік — прафесар, доктар эканамічных навук Уладзімір ТАРАСАЎ**

**— Уладзімір Іванавіч, хачу пачаць гаворку з пытання, якое хвалюе, бадай, усіх. Чаму ў нас усё пагаршаецца і пагаршаецца эканамічная сітуацыя? У чым прычыны?**

— Галоўная ў тым, што ў краіне, па-сутнасці, не праводзяцца рэформы. А тыя меры, якія ажыццяўляліся, насілі не комплексны характар. Улады ніяк не могуць развітацца з каманднa-адміністрацыйнай сістэмай, якая і тармозіць. Другая прычына — адсутнасць інвестыцый. І ўласныя інвестары і тым больш замежныя не жадаюць укладваць сродкі ў беларускую эканоміку. Пры той сітуацыі, якая складваецца ў нас, было б проста дзіўна разлічваць на прыток сур'ёзных інвестыцый, на нейкае паляпшэнне.

**— А што так адпужвае інвестараў?**

— Вялікая рызыка, якая чакае іх тут. Да гэтага часу няма яснасці наконт прыватнай уласнасці на зямлю. Адпужваюць і такія факты. Скажам, сёння праводзіцца аўкцыён па продажы ўласнасці, а заўтра ён адмяняецца.

**— Чаму так важна прыцягненне інвестараў?**

— Без вялікіх капіталаў выйсці з крызісу немагчыма. Да таго ж, з капіталам вядучых краін прыходзяць і сучасныя тэхналогіі, якія аднаўляюць, узнімаюць узровень вытворчасці. Мы змаглі б у іх і павучыцца ўмеламу гаспадаранню. Словам, з іх прыходам пачынаецца цэлы ланцужок перабудовы эканомікі.

**— Відаць, адмоўна ўплывае на вытворчасць і падтрыманне стабільнага курсу долара?**

— Ну так. З тэорыі і практыкі вядома, што калі эканоміка рэфарміруецца, а курс долара застаецца нязменным, дык гэта ставіць у незайздроснае становішча таваравытворцаў, якія экспартуюць сваю прадукцыю за мяжу. Што ў нас і атрымалася.

**— Цяпер хацелася б пачуць вашы прапановы па выхаду з крызісу. Што ж трэба рабіць, каб, нарэшце, пачаць выбірацца з яго? Ці можна хутка паправіць справы?**

— Можна. Сусветны вопыт дае нямала прыкладаў ажыўлення эканомікі за даволі сціслыя тэрміны. Узяць, хоць бы прыклад Германіі, якая упэўнена і хутка пераадолела пасляваенны крызіс. Кнігу яе галоўнага рэфарматара Людвіга Эрхарда "Дабрабыт для ўсіх" нам варта чытаць і перачытваць. У ёй падрабязна апісана, з чаго пачынаць і як трэба праводзіць рэформы, як яны ішлі ў Германіі, калі яе эканоміка была практычна разбурана.

Можна скарыстаць і апошні вопыт — рэфармаванне ў Польшчы, Прыбалтыцы і асабліва ў Чэхіі.

**— І што пры рэфармаванні самае важнае?**

— Дзяржава павінна быць дзяржавай, з усімі атрыбутамі і граніцамі. А ў нас да гэтага часу невядома, колькі тавараў вывозіцца з краіны рознымі "тропамі", у прыватнасці, на усход.

Наспела ўдасканаленне падатковай сістэмы, радыкальнае рэфармаванне ўласнасці (на вёсцы), паскарэнне прыватызацыі... Словам, патрэбны рынкавыя рэформы па ўсіх накірунках.

**— Прадстаўнікі ўлад пераконваюць, што "абвальныя рэформы", як яны кажуць, прывядуць да банкруцтва прадпрыемстваў і росту беспрацоў'я.**

— І таму працягваюць падтрымліваць прадпрыемствы, якія працуюць у асноўным на склад, цягнуць усіх нас у яшчэ большы крызіс. Хіба гэта палітыка? Лепей варта было б падумаць, як змягчыць наступствы банкруцтва, ад якога нікуды не дзенешся, для чаго варта было б ствараць добрыя ўмовы для прыватных прадпрыемстваў, развіваць рынкавую інфраструктуру, адкрываць новыя рабочыя месцы і перавучваць кадры.

Найбольшы поспех рэформы даюць тады, калі яны праводзяцца з апярэджаннем суседзей. У нас жа — вялікае адставанне. Пры гэтым, у сваёй эканамічнай палітыцы нельга "прывязвацца" да нейкай адной дзяржавы, рэгіёна, як гэта мы робім, арыентуючыся толькі на усход, а наладжваць добрыя адносіны з усімі, дзе толькі можна мець нейкія выгады.

**— Улады пераконваюць, што з Расіі мы будзем атрымліваць танныя рэсурсы**

— Гэта не так. Расія ўжо ўводзіць сусветныя цэны. Да таго ж цэны на сыравіну там фарміруе не столькі ўрад, колькі акцыянерныя таварыствы. А яны не будуць рабіць нікаму "поблажки" ва ўрон уласным інтарэсам. Напрыклад, аб гэтым яскрава сведчыць сучаснае становішча з пастаўкамі нафты ў Беларусь.

**— Уладзімір Іванавіч, вы неяк выказваліся, што не толькі эканоміку, але і ўсё грамадства можа разбурыць высокая інфляцыя.**

— Так. Першачарговая задача любой краіны — "обуздать" інфляцыю, прыняць такія захады, каб яна не перавышала 0.5-1% у месяц. Бо яна сапраўды разбурае не толькі эканоміку, але і стабільнасць у грамадстве. Менавіта высокі ўзровень яе (да 5000% у год), з'явіўся адной з галоўных прычын грамадзянскай вайны ў Югаславіі.

**— І ўсё ж-такі за які час, калі ўзяцца па-сапраўднаму, можна палепшыць справы?**

— За год. За год сапраўдных рэформ можна ўбачыць "святло ў канцы тунеля", а за 3—5 — поўнасцю стабілізаваць эканоміку і палепшыць узровень жыцця.

**Пытанні задаваў**
**Іван МАКАЛОВІЧ.**

Взгляд

*Светлана КУРЫЛЕВА*

# Народ и власть

Референдум прошел, в республике постепенно установится определенный образ правления. Но меня сейчас интересует не политический, а психологический аспект результатов голосования. Почему только тридцать процентов всех принявших участие в референдуме (в Каменецком районе еще меньше!) высказалось за то, чтобы органы исполнительной власти избирались непосредственно на местах? Во всем мире укрепляется самоуправление как наиболее эффективный способ правления. А мы, по сути, проголосовали против, сделав тем самым шаг назад. Мы согласились, чтобы нами командовали присланные сверху люди...

Что же все-таки произошло и почему мы выбрали именно такой тип власти? Многие, мне кажется, просто не вдумались, не поняли, что подмахнули. Им нужно было хорошенько растолковать, но сделано это не было. То есть многие отказались от самоуправления по неведению. А ведь даже в царской России было земство. В Каменце совсем недавно снесли земскую больницу, которая верой и правдой служила не одному поколению местных жителей. На ее месте стали строить роддом, но заморозили — нет средств. Да и сколько сейчас рождается? Но это к слову... Отвратило от местной власти и равнодушие к ней народа. Когда мы собирали материал для книги "Память", я решила рассказать о наиболее "правильном" председателе райисполкома. Люди назвали Григория Гавриловича Шевченко, работавшего в Каменце с 1965 по 1970 годы. Между прочим, не местного жителя, а выходца из Украины. Он построил библиотеку, посадил красивый парк, обустроил центр города. За пятьдесят послевоенных лет он, пожалуй, единственный представитель власти, которого люди вспоминают с теплотой. А в самом райисполкоме сведений о его работе не было. Пришлось рыться в пыльных папках приказов. К счастью, в Каменце живет его земляк, который рассказал нам об этом славном человеке. А ведь во многих организациях велась своеобразная летопись деяний. Мне показали красочные альбомы. Коегде в вестибюлях висели портреты лучших работников. Но не в райисполкоме. Такое отношение власти к самой себе в какой-то мере и отвратило от нее людей.

Во времена СССР власть состояла частью из приезжих, частью из местных жителей, которых избирали депутатами в советы различных уровней. Хозяином района был секретарь райкома. В обиходе его так и называли: Первый. А председатель райисполкома, то есть представитель советской власти, всегда был на втором месте. Каковы же были секретари райкомов? А всякие — умные и не очень, интеллигентные и мужланы, расположенные к людям и высокомерные. Наконец, нравственные и безнравственные, вплоть до развратных, заглядывающих в рюмку и не чурающиеся взяток. Впрочем, как везде. Но в их руках была полная и неограниченная власть, конечно, в рамках социалистического строя. К Первому ходили на прием за работой, квартирой, направлением на учебу. Жалобу на выпивоху-мужа или неверную жену тоже несли Первому. Работая в Брестском архиве все над той же книгой "Память", я наткнулась на длиннейшую жалобу своего знакомого: жена завела любовника. Дело рассмотрели, ему был дан ход, любовника освободили от занимаемой должности...

Вот по такой системе и тоскуют многие, особенно люди пожилого возраста. Им надежнее перекладывать тяжкие заботы на плечи сильной власти. А какая власть не хилая? Конечно же та, что прислана сверху... В короткое время изменить менталитет этой части народа невозможно. Он будет меняться с изменением форм собственности. Наиболее независимый человек — собственник. Ему не надо выпрашивать ни квартиру, ни работу, да и с неверной женой он сам как-нибудь разберется. Ну что ж, надо ждать установления рыночных отношений...

Перейдем к седьмому пункту референдума. Согласны ли голосующие, что финансирование всех ветвей власти в республике должно осуществляться гласно и только из госбюджета? За этот очень важный пункт проголосовала почти треть принявших участие в референдуме. Но этого мало, чтобы переломить ситуацию. Остается все та же система власти, которая подкармливает наиболее услужливых премиями, различными дотациями, "кормовыми", при которой отсутствуют декларации (гласность!) о доходах, полученных из разных источников. Это делает чиновников местной власти зависимыми от тех, кто их назначил. В демократических странах общественность бдительно следит за тем, чтобы парламентарии и другие представители власти не злоупотребляли подарками, гонорарами за консультации в различных фирмах и другими источниками доходов. То есть стремятся обезопасить общество от распространенного зла — лоббирования. А с нашего согласия в Беларуси оно получило зеленую улицу.

Подведем итог. Некоторые говорят, что референдум не нужно было проводить. Он, мол, все равно не дал реальной картины состояния умов общества. Я же думаю так: несмотря на спорность того, за что проголосовали, референдум все же показывает сегодняшнего гражданина Беларуси. Мне эта фигура представляется патриархальной и в какой-то мере трагической: каждый четвертый погиб в Великой Отечественной войне, каждый третий пострадал от Чернобыля. Каждый четвертый находится на склоне лет. Люди не могут найти работу по специальности, не способны дать детям качественное образование, почти все лишены возможности эффективно лечиться, а есть такие, и их немало, что живут впроголодь. Конечно, очень ободряют обещания президента А.Лукашенко. Но для их реализации нужны немалые средства. А где они, если заводы и фабрики простаивают, и рыночная реформа идет туго... Можно ли исправить положение? Можно. Но лишь после того, когда люди осознают, где правда, а где ложь, когда они дадут от ворот поворот тем, кто их оболванивает, уводит в сторону от настоящей цивилизации. Нужна эпоха просвещения...

*г.Каменец.*

